Цана нум. 50 гр.

# НАШ ГОЛАС

АДНАДНЁЎКА

Вільня, Май 1932

## АД РЭДАКЦЫІ

Папярэднія аднаднёўкі, каторыя выдаваліся намі,—зрабілі сваё.

Беларускае грамадзянства пачало больш уважна прыглядацца да сваіх грамадзкіх спраў і значная частка яго пераканалася ў тым, якіх вялікіх высілкаў трэба палажыць на стварэньне здаровых падстаў грамадзкага жыцьця і выкіненьня з яго ўсіх шкодных і дэмаралізуючых элемэнтаў.

Шмат хто пераканаўся і ў тым, што некаторыя нашыя „патрыярхі" і павадыры, якія ў працягу многіх гадоў стаялі на грамадзкай відоўні, прэтэндуючы на беларускі „патрыяршы прастол", — аказаліся звычайнымі круцелямі і здраднікамі беларускага народу.

Калі, напрыклад, наступіла адказная хвіліна — (а гэта было на працэсе Грамады) і калі трэба было выявіць хоць крыху грамадзкай адвагі—дык гэтыя здраднікі выракліся ўсяго і нават... беларускага народу.

Раптам з нацыянальных беларускіх герояў яныператварыліся ў „białorusinów-polaków" спадзяючыся гэтым нацыянальным рэнэгацтвам заслужыць „панскую ласку" і пазбыцца катаржнай турмы, куды яны запхалі многія сотні людзей, прадаўшы іх за запраўдныя Юдавы чырвонцы.

Мала таго—гэтыя людзі аказаліся правакатарамі.

Мы маем моцныя падставы каб абзываць іх гэтакім ганьбячым назовам, бо занадта добра пазналі гэтых круцялёў.

Бачылі як яны „ганарова" бараніліся на судзе і бачылі як яны выракшыся ўсяго, — паціхеньку пасунуліся да хаты, будучы дзякуючы нейкаму непаразуменьню — апраўданымі судом.

У той самы час, калі людзі, каторыя з імі разам працавалі і каторыя некалісь лічылі іх за сумленных дзеячоў, сядзелі яшчэ ў катаржных вастрогах—гэтыя дзеячы „с места в карьер" загнулі такую „лінію", якой дзівілася навет польскае грамадзянства.

І вось якраз гэтакае паступаньне завецца здрадай і правакацыяй, якія выклікалі зусім слушнае абурэньне ўсяго беларускага грамадзянства бяз розьніцы палітычных кірункаў.

Такога рэдка дзе натаванага грамадзкага цынізму не маглі спакойна перанесьці навет найбліжэйшыя да іх людзі, у выніку чаго мы былі сьведкамі самагубства жонкі аднаго з такіх здраднікаў, не сьцярпеўшай пазору і налажыўшай на сябе рукі.

Усяго было ў нашым грамадзкім жыцьці, але ня было, здаецца, таго, што здарылася на працэсе Грамады і пасьля яго...

Яшчэ і да гэтага часу сотні б. грамадаўцаў, адцярпеўшы кару, сядзяць па вёсках з воўчымі пашпартамі, судовыя каморнікі робяць да іх візыты, дамагаючыся выплаты судовых коштаў, апісваюць апошнюю карову, а людзі, якія іх справакавалі, — сядзяць у сваіх прыгожых вільлях (выклікаўшых між іншым вялікае зацікаўленьне з боку пракурора падчас працэсу Грамады) і далей мелі-б ахвоту ашукваць грамадзянства і лавіць рыбу ў мутнай вадзе...

Другая частка нашых павадыраў паступіла больш консэквэнтна і простым шляхам праўда з перасядкаю ў Гданску, пасунулася ў Саветы, скуль чэрпала запал і натхненьне падчас сваей грамадзкай працы на нашых землях...

Цяпер яны скінуўшы нацыянальныя шаты і начапіўшы на сябе савецкія адзнакі „за усердную службу" разам з Кагановічамі засядаюць у Цэнтр. Вык. Камітэце Савецкай Беларусі, разам з імі зьдзіраюць „во славу комуны" скуру з працоўнага сялянства і душаць нац. адраджэнскі рух беларускага народу.

Але пра гэтых „нацыянальных герояў" адложым гутарку да наступнага разу...

У даным выпадку нас цікавяць найбольш тыя, хто застаўся тут і каго канечна патрэбна вывясьці на чыстую ваду—каб раз на заўсёды пасадзіць іх на адпаведнае мейсца, на якое яны заслужылі сваімі ганебнымі ўчынкамі.

Трэба запраўды дабіцца суровага прыгавору нашай грамадзкай апініі над тымі самымі ягамосьцямі, каторыя ў працягу многіх гадоў затручвалі нашае грамадзкае жыцьцё і цяпер яшчэ дзякуючы сваім круцельствам стаяць на перашкодзе да яго аздараўленьня. Іх трэба аканчальна ізаляваць разам з іхнімі прыхільнікамі, адрэзаўшы ўсялякія магчымасьці да вядзеньня сваей шкодніцкай пра-

цы сярод народных масаў і пакінуць іх варыцца ў сваім ўласным сьмердзякоўскім сосе.

З гэтаю мэтаю мы і друкуем нашую, з раду чацьвертую, аднаднёўку, прысьвечаную тым актуальным у нашым жыцьці справам, якімі зацікавілася беларускае грамадзянства.

## Да якога-ж лагеру залічыць іх?

Тыя палітычныя перавертні, каторыя выдаюць цяпер „Беларускі Звон",—праліваюць кракадылёвыя сьлёзы з тае прычыны, што нашае грамадзкае жыцьцё апынулася ў вельмі сумным стане.

„Мы ўсё часьцей і часьцей бачым"— кажуць яны („Бел. Звон" № 1—1932): „жудасныя прыклады нацыянальнае здрады і адступніцтва сярод беларусаў"...

„А колькі былых грамадаўцаў перайшло ў воражы беларусам лагер, як да прыкладу, ня шукаючы далёка—ведамы Акінчыц? І вось гледзючы на іх, і людзі маленькія... пакідаюць шлях змаганьня і ідуць да чужых"...

Далей гэтыя „змагары" разважаюць пра тое, што на беларускім целе ўсьцяж жыруюць суменжныя дзяржавы, з якіх кожная за грошы стараецца купіць сабе беларускіх „патрыярхаў" прыблізна таксама, як у Кітаі розныя дзяржавы купляюць сабе гэнэралаў.

Запраўды гэны „Беларускі Звон" даволі цікаўная газэтка і з яе нашае грамадзянства шмат чаго можа даведацца...

Перадусім, яно даведалася пра тое, што значная частка б. грамадаўцаў перайшла ў „воражы беларусам лагер."

Як відаць са зьместу стацьці,—гэта трэба разумець у тым сэнсе, што ўсе грамадаўцы, каторыя ня выехалі ў Саветы і не пайшлі ў парабкі да камуністычнага савецкага ўраду,—паводлуг кляcыфікацыі Луцкевіча з Астроўскім,—залічаюцца у „воражы лагер."

На ўсе гэтыя справы мы маем трохі іншы пагляд, які ня вельмі можа спадабацца як сучасным „полёнофілам," так і тым колам каторыя іх падтрымоўваюць.

Мы залічаем за перашоўшых да воражага лагеру ня тых, хто застаўся тут у межах Польшчы каб разам са сваім народам цярпець усе няўзгоды і каб супольнымі высілкамі імкнуцца да палепшаньня яго долі, але тых—хто пакваліўся на высокія пасады—як гэта зрабілі выехаўшы ў Саветы грамадаўцы і зрабілі гэта ў той самы час калі там увесь беларускі нацыянальны актыў сядзеў у вастрогах.

На гэным, між іншым, і палягае адно з галоўных нашых разахаджэньняў у поглядах з тымі панамі, каторыя паза плячыма падстаўных радактароў кіруюць „Беларус. Звонам".

Каліж пачаць гутарку пра нацыянальную здраду і адступніцтва, то бадай ці ні найбольш яскравым іх прыкладам а разам з тым і найбольш жудасным можа быць ніхто іншы, як сам галоўны рэдактар "Беларускага Звону" п. А. Луцкевіч каторы каб ўратаваць сваю "драгацэнную" скуру на працэсе Грамады і перайсьці „на эмэрытуру"—ня прызнаў сябе за беларуса,—а як той хітры вясковы „палітык"—зашыўся да некай мяшанай пароды „polaków—białorusinów."

З усяго відаць, што п. рэдактарам Б. З, занадта добра вядома—у які гэта спосаб суседзкія дзяржавы купляюць у нас патрыярхаў па прыкладу таго, як купляюцца кітайскія гэнэралы.

Добра ведае пра гэта і ўсё беларускае грамадзянства, аднак для больш поўнага высьвятленьня справы не пашкодзіла-б даведацца пра некаторыя „драбніцы" (чамусьці непарушаныя Б. З.) бо толькі тады артыкулы пяра Луцкевіча былі-б больш яснымі і для ўсіх зразумелымі. „А ў каго гэта ня тут кажучы „укралі" чэмадан з грашыма Скарападзкага? А хто меў дачыненьне з ковенскімі літамі, гданьскімі гульдэнамі, савецкімі чырвонцамі і далярамі, нямецкімі маркамі, а ў апошнія часы з польскімі злотымі?

А хто-ж гэта так урачыста спатыкаў нямецкую армію, віншаваў Вільгэльма і за нямецкія грошы выдаваў свае „гоманы"? Нам здаецца, што ніхто іншы, а толькі сучасныя „радыкалы—званары" маглі-б даць дакладныя адказы на ўсе гэныя пытаньні, бо толькі яны праз увесь час былі і ёсьць і цярер на палажэньні гэтых гэнэралаў... Розьніца паміж старымі часамі і сёньняшнім днём палягае на розьніцы ў валюце. Калі, напр., курс савецкага чырвонца стаяў высока, а польская валюта была неўстабілізаванаю—гэтыя „ідэёўцы" ў сваіх „справах" праслаўлялі Савецкі рай, а калі курс Савецкага чырвонца настолькі паў, што ў пераводзе на польскія злоты нічога не даець—ідэолёгія нашых безсрыбнікаў рэзка зьмянілася: агаласіўшы Сталіна правакатарам—пачалі званіць з прычыны „жудасных прыкладаў здрады".

Дзівіцца ўсяму гэтаму ня прыходзіцца, бо трэба памятаць, што арыентацыяй гэткага тыпу людзей ёсьць „арыентацыя" на валюту—хто больш дасьць—таму, яны і будуць служыць. Дакаціліся-ж гэтыя „бязвызнанёвыя марксісты" да таго, што ў сваей „праваслаўнай" часопісі воскурілі фінцам" арх. Дзянісу нават рэктару духоўнай Сэмінарыі Тучэмскаму, пачуўшы што можна каля іх пажывіцца.

„Беларускія масы перастаюць верыць усім і аказваюцца адарванымі ад сваіх дазнаных правадыроў"—скаржацца тыя людзі, каторыя „павадырства" пертварылі ў некі даволі карысны для сябе фах.

Каб у гэтай бядзе крыху пацяшыць нашых „дазнаных" можам сказаць ім толькі тое, што запраўдныя павадыры ніколі ня бываюць адарванымі ад сваяго народу і ніколі ня трацяць яго даверу.

На гэта скаржацца, адны толькі афэрысты (і то з ліку зусім дазнаных), якім не ўдаецца дзякуючы сваей адарванасьці ад народных масаў вясьці іх коштам розных шахрайстваў. Ніхто тут не паможа ні сьлёзы, ні жальбы, ні той дурман і брахня на людзей якія імі распаўсюджваюцца праз радыкальныя шкумаціны.

Адзіным ратункам тут можа быць толькі хутчэйшае зразуменьне таго, што „залатая пара" розных круцельстваў у нашым грамадзкім жыцьці падходзіць да канца і што толькі звычайны сьметнік, створаны імі на прагніўшым віленскім грунце, будзе апошнім этапам грамадзкай кареры, тых хто ўсё сваё жыцьцё, пачынаючы ад „нашаніўскае пары", пражыў ашуканствамі і здрадай шукаючы цяпер розныя „жудасныя прыклады".

Не пашкодзіць ім памятаць і пра тое, што нашае ўдзячнае грамадзянства не пашкадуе для ўсіх „дазнаных" асінавага кала, які даўно ўжо загатаваны на выпадак тое шчасьлівае хвіліны калі яго можна будзе забіць на іх могілках...

## Нацыянальныя справы п. Луцкевіча

У свой час у беларускай прэсе падаваліся весткі пра тое, што А. Луцкевіч на працэсе Грамады так далёка пасунуўся ў сваей уласнай абароне, што нават выракся беларускага народу, залічыўшы сябе да некай нязнанай дагэтуль „этнічнай" пароды "białorusinów—polaków."

Гэтая прыкрая для беларускага „патрыярха" акалічнасьць, якая толькі нядаўна выявілася перад нашым грамадзянствам, вельмі яго ўстрывожыла—і мы зусім разумеем, як прычыну сучаснага яго здэнэрваваньня, так і тыя матывы, якімі ён кіраваўся, калі выракаўся ня толькі Грамады, але і беларускага народу.

У мэтах рэгабілітацыі аднаго з найбольш шанаваных—„афіцыёз" гэтых апошніх „Бел. Звон" № 5—1932 г. падае, што паказаньне п. Луцкевіча, якое трапіла ў газэты,—сфальшавана і сфальшаванасьць гэтая даводзіцца быццам тым, што яно „—было надрукавана ў акце абвінавачаньня і публічна прачытана на працэсе—ведама-ж, без дарobленае ідыотычнае заявы, быццам гр. Луцкевіч называў сябе „беларусом—палякам„ (такой нацыянальнасьці няма".

Зусім падзяляем тую думку, што заява запраўды была ідыотычнаю і што да гэтай заявы ня было чуваць пра існаваньне на сьвеце такой нацыянальнасьці, прадстаўніком якой аб'явіў сябе п. Луцкевіч.

Куды больш спрытнейшаю лічым заяву „Б. Звона" даводзючага быццам паказаньне п. Луцкевіча было надрукавана ў акце абвінавачаньня і „публічна прачытана на працэсе".

Справа, аднак, у тым, што паказаньні абвінавачаных ніколі поўнасьцю ў акты абвінавачаньня не заносяцца, а заўсёды ў скарочаньні і пераважна толькі тое, што найбольш патрэбна пракурору, які гэтыя акты ўкладае.

Зразумела, што гэтаму апошняму было проста нявыгадна запісваць у акт абвінавачаньня як раз такую акалічнасьць, якая на 50 процэнт, а можа і балей, абяляла п. Луцкевіча, бо запраўды заява пра прыналежнасьць да гэтакай нацыянальнасьці як „polak—białorusin" зьяўляецца фактам, які вельмі многа прамаўляў сам за сябе...

Толькі дзеля гэтага ў акце нічога і не ўспамінаецца пра вышэй пададзеную і цікавую для нас акалічнасьць. Усе паказаньні, якія даваліся на допросах у судовага сьледаваццеля (калі дапрашывалі кожнага па-асобку і бяз сьведкаў), запісываліся ў пратаколы і толькі з іх можна даведацца што казаў пра сябе п. Луцкевіч, не спадзяючыся, відаць, што калі—небудзь выйдуць на яў яго спосабы ратаваньня ўласнае скуры.

Яшчэ раз мусім рашуча сьцьвердзіць, што на дапросе ў суд. сьлед. Падоскага, які адбыўся 12 кастр. 1927 г. ў Вільні—на пытаньне гэтага апошняга, скіраванае да Луцкевіча—да якой нацыянальнасьці сябе залічае — наш „агульна шанаваны" даў зусім выразны адказ: „białorusin—polak" што было запісана ў пратакол і падпісана як Луцкевічам, так і суд. сьледаваццелем Падоскім.

Акалічнасьць гэтая трошкі прыкрая, тым балей для „беларускага павадыра", але, як кажуць, „што напісана пяром, таго ня высячэш і тапаром."

Гэтакае яго паказаньне можна адшукаць ў т. VI—F судовых актаў справы Грамады на старонцы 186.

Для інфармацыі грамадзянства падаем, што ўсе паказаньні з працэсу Грамады, (як абвінавачаных так і сьведкаў), былі перадрукованы на машыне і ў колькасьці пяці экзэмпляраў былі выдадзены некаторым абвінавачаным ў працэсе (Тарашкевічу, Рак—Міхайлоўскаму, Бурсэвічу, Мятле і Акінчыцу.)

Адзін з гэтых экзэмпляроў (тры вялікія тамы, маючыя разам больш 1500 стр. машыновага друку), знаходзіцца ў рэдакцыі нашай аднаднёўкі, рэшта-ж, як нам ведама, часткова зьнішчана ў вастрогах, а часткова апынулася ў Менску.

Паказаньню п. Луцкевіча адносна сваей нацыянальнай прыналежнасьці дзівіцца ня прыходзіцца, хаця-ж бы з тае прычыны, што і раней з яго беларускасьцю было ня зусім добра: маем на ўвазе той час, калі гэты шляхціц „гэрбу Навіна" лічыў сябе паляком...

## Паказаньне А. Луцкевіча на працэсе Грамады

Дзеля таго каб ня было ні ў кога сумліву пра тое, што фактычна паказаў Луцкевіч на працэсе Грамады — падаем поўнасьцю пратакол ягоных паказаняў у тым самым выглядзе, ў якім яны былі запісаны судовым сьледаваццелям і падпісаны самым Луцкевічам

### Protokół badania oskarżonego.

Działo się dnia 12 października 1927 r. w Wilnie. Ja Sędzia Śledczy Bohdan Podoski, w zastępstwie Sędziego Okręgowego St. Pawlucia, badałem poniżej wymienionego w charakterze oskarżonego w myśl art. 396 i 306 Ust. Post. Karn., przyczem oskarżony zeznał co następuje. Nazywam się Łuckiewicz Antoni, lat 43, urodzony w m. Szawlach ziemi Kowieńskiej. zam w Wilnie przy ul. Wileńskiej 8 m. 3, syn Jana i Zofji, **białorusin-polak, bezwyznaniowiec,** ukończyłem wydział Przyrodniczy Uniwersytetu Petersburskiego, żonaty, dwoje dzieci w wieku lat 7 i 5, literat, publicysta—i nauczyciel, posiadam domy w Mińsku obecnie znacjonalizowane przez władze sowieckie, nałogowi pijaństwa nie oddaję się, mam zajęte prawe płuce i chore serce (osłabienie jego działalności), żadnych oznak szczególnych nie mam, służbę wojskową nie odbywałem, sądownie nie karany. Następnie na pytanie co do istoty wytoczonego oskarżenia złożył następujące (zeznania) wyjaśnienia: Ja nie przyznaję się do winy, opisanej w ogłoszonej mi decyzji postawienia mnie w stan oskarżenia z art. 102 cz. I K.K. t. j. do należenia do spisku w ciągu 1926 r. w pierwszym kwartale 1927 r., zawiązanym dla zamachu na ustalony w drodze praw zasadniczych ustrój państwowy Polski i na całość jej terytorjum państwowego i wyjaśniam co następuje. Jestem z przekonania marksistą; od 1905 r. do 1907 byłem członkiem Białoruskiej Socjalistycznej Hromady w programie swej zbliżonej do P.P.S. Od tego czasu do żadnej partii i organizacyj politycznych nie należałem. Jestem w jednakowym stopniu obcy ideologji II jak i III Międzynarodówki. Członkiem B.W.R. Hromady nie byłem i nigdy w pracach C. K. tego stronnictwa żadnego udziału nie brałem. Od 1906 roku stale pracowałem w prasie białoruskiej o kierunku narodowo-radykalnym.

Bardziej czynny udział w robocie prasowej biorę od 1922 r. Jestem od tego czasu stałym współpracownikiem czasopism, których tytuły ulegały zmianom, a których redakcja ostatnio od lat kilku znajdowała się przy ul. Wileńskiej 12 m. 6. W czasopismach tych prowadziłem dział kroniki krajowej i

dział literacki, umieszczając artykuły i z innych dziedzin. Czasami również pisywałem i artykuły wstępne do tych czasopism. **Redaktorem faktycznym tych czasopism nie byłem.** W 1923 r. zaraz po wyborze do Sejmu faktycznym redaktorem tych czasopism był Łohinowicz, imienia jego nie pamiętam, nie mam również jego obecnego adresu. Po Łohinowiczu faktycznym redaktorem tych czasopism był Szyło, a za nim Wojcik. **Od połowy 1925 roku do 1 kwietnia 1927 roku redaktorzy faktyczni tych czasopism bardzo często się zmieniali. Nazwisk ich podać nie mogę. Twierdzę stanowczo, że odpowiedzialni redaktorzy byli zawsze i faktycznymi redaktorami tych czasopism.** Czasopisma te nie miały stałego kolegjum redakcyjnego i ja nigdy członkiem takiego kolegjum nie byłem. Za pracę swoją w powyższych czasopismach pobierałem wynagrodzenie. Płatny byłem od wiersza. Za kronikę płacono mi około 10 groszy od wiersza, a za artykuły od 10—15 gr. od wiersza. Poza oryginalnemi artykułami dokonywałem dla tej prasy tłomaczeń przeważnie z języka polskiego, a zrzadka z rosyjskiego różnych korespondencyj ze wsi, wycinków z prasy interpelacyj polskich. Etyka dziennikarska nie pozwala mi wymienić nazwisk współpracowników tych czasopism. Twierdzę stanowczo, że nigdy nawet na myśl mi nie przyszło, że prasa, w której współpracowałem, mogła otrzymywać subsydja od partji komunistycznej. Wiem natomiast, że czasopisma te otrzymywały znaczną pomoc w pieniędzach od białoruskiego klubu poselskiego. Kto je subsydjował po rozłamie w klubie—nie wiem. Wiem natomiast, że pozatem wspierała te pisma białoruska kolonja w Ameryce. Subsydja te zarówno od posłów, jak i z Ameryki otrzymywali wydawcy.

Mikołaj Zakrzewski istotnie przynosił do mnie różną korespondencję dla opracowania, jednak robił on to już po przejrzeniu tej korespondencji przez redakcję. O istnieniu jakichś politycznych cenzorów z C.K.K.P.Z.B. pierwszy raz słyszę. Odczytano (—) Я. Луцкевіч. (—) B. Podoski—Sędzia Śledczy.

# „Hanarowyja“ sprawy pana Łuckiewicza

Straciŭšy ahulnuju pašanu ŭsiaho biełaruskaha hramadzianstwa p. A. Łuckiewič choča wiarnuć jaje pry dapamozie „kodeksu postępowania honorowego“, ułožanym panam Malatyńskim.

Sprawa, jak užo wiadoma našamu hramadzianstwu, zwodzicca da taho, što 6 śniežnia 1931 h. adbyŭsia ŭ Wilni schod kamisii stypendyjalnaha fondu dla biełaruskaha studenstwa, kudy zjawiŭsia i p. Łuckiewič, majučy na mecie „uzarwać“ hetuju kamisiju.

Na schodzie byŭ miž inšymi, i pasoł Jaremič, kinuŭšy ŭ swajoj pramowie pa adrasu Łuckiewiča toje, čamu spaŭčuwaješ usio česnaje biełaruskaje hramadzianstwa **biaz wyniatku.**

Pawodle hazetnych sprawazdačaŭ p. Jaremič wysławiŭsia tak: hr. Łuckiewič nia wart taho, kab ja mieŭ padawać jamu ruku“.

U wyniku sprečki, jakaja paŭstała na schodzie, „hanarowy“ p. Łuckiewič dzieła braku lohičnaha źmiestu arhumentacyi, puściŭ u ruch swoj patryjaršy posach, nakinuŭšysia na adnaho z prysutnych na schodzie studentaŭ, ale pramachnuŭsia i posach rassiek tolki pawietra.

Zrazumieła, što paśla hetakaha „błahačesciwiejšaha“ namieru z boku biełaruskaha patrijarchi hetamu apošniamu ničoha bolš nie zastawałasia jak „wo-swojasi“ pakinuć schod pad ahulny śmiech i dobryja pažadańni prysutnych...

Kumpanija „radykałaŭ“ z pad znaku Łuckiewiča ŭ metach zatušawańnia hetkaj brydkaj sprawy chacieła, abwinawačwajučy Jaremiča, pawiarnuć jaje na šlach sudu česci, ad jakoha Jaremič ustrymaŭsia i zajawiŭ praz hazetu što jon „hatoŭ pajšci na sud česci, ale tolki paśla taho, kali A. Łuckiewič ačyścicca ad usich zakidaŭ, jakija jamu zrobleny ŭ biełaruskaj presie („B. Krynica“ № 41—1931 h.).

Atrymaŭšy hetki adkaz, sekundantam hanarowaha p. Łuckiewiča — W. Hryškiewiču i A. Trepku — ničoha bolš ni zastawałasia jak nadrukawać u swaim „Zwonie“ „adnastaronni pratakoł“, dzie hetyja pany starajucca dawieści byccam im łohka dałosia wiarnuć utračany honar Łuckiewiča i dzie miž inšym kažuć, što heta jany zrabili na padstawie pracedury „Kodeksu postępowania honorowego“ (ułožanaha p. Malatyńskim), jaki i byŭ zastasawany ŭ danym wypadku.

Tak pryblizna zakončyłasia histaryčnaje wystupleńnie adnaho z „najbolš pawažanych“ našych pawadyroŭ z pryčyny jakoha hetamu apošniamu pryjšłosia ŭzbahacić biblioteku „Nawukowaha“ T-wa takim tworam, jak „Kodeks postępowania honorowego“, dzie na žal dla našych „radykałaŭ“,—niama aniwodnaje parady pra toje, jakim sposabam možna wiarnuć utračany hramadzki honar i pašanu.

Razhladajučy biezstaronna ŭsiu hetuju wielmi kamičnuju sprawu, kidajecca ŭ wočy taja akaličnaść, što caławiek, katory nanosić ciažkuju abrazu ŭsiamu ahulnamu schodu, kidajučysia na adnaho z jaho siabroŭ z dubinkaju—kab wykrucicca z hetaj prykraj dla „patryjaršaha“ sanu akaličnaści — biažyć u kniharniu, kuplaje tam „Kodeks“ i karystajučysia jaho paradami starajecca wystupać u roli prakurora...

Z druhoha boku — zbrojnaje wystupleńnie p. Łuckiewiča niachaj budzie nawukaju na budučyniu dla tych hramadzian, jakija zaprasili jaho na hety schod.

My zusim zhadžajemsia z tym, što Łuckiewič jak caławiek, sprawakawaŭšy Hramadu nadajučy joj pry dapamozie swaich hazetaŭ kamunizujučy charaktar, a potym zdradziŭšy i wyrakšysia jaje na sudzie, caławiek, jaki papoŭniŭ cely rad inšych prastupleńniaŭ proci biełaruskaha hramadzianstwa—zapraŭdy nia wart taho, ab čym kazaŭ pasoł Jaremič. Ale treba być konsekwentnym — nia wart jon i taho, kab zaprašali jaho na hramadzkija schody, bo adna prysutnaść hetaj asoby na ŭsialakim ahulna-hramadzkim schodzie ŭnosić tudy tolki razłažeńnie, wielmi wyhadnaja dla ŭsich worahaŭ biełaruskaj sprawy.

Pan Łuckiewič sa swajoju dabranaju kumpanijaju chwaliŭsia niejak u swaim „Zwonie“, što „wysokija sfery“ nia tolki puščajuć jaho ŭ swaje salony, ale padajuć jamu ruku,—u toj samy čas jak nia robiać hetaha adnosna inšych hramadzian, staŭšych „papiarok darohi“ ŭsioj hetaj kumpanii.

Mahčyma, što na hety raz p. Łuckiewič i nie sałhaŭ, a zreštaju licha wiedaje, što robicca ŭ henych „salonach“.

Daj Boža, kab takaja idylija, kali wieryć p. Łuckiewiču, ciahnułasia i dalej.

My ludzi nia złyja i „zakłucać spokój rodzinny“ nia chočam, tym balej dawiedaŭšysia pra toje, što Łuckiewič nabyŭ sabie „Kodeks honorowy“... Dla

nas, pryznacca, bolš cikawaju zjaŭlajecca taja akaličnaść, što p. Łuckiewiču admaŭlajecca padawać ruku **biełaruskaje hramadzianstwa** — i woś na hetym jak-raz i palehajeć trahi-kamizm pałažeńnia p. Łuckiewiča i ŭsich tych panoŭ z „wysokich sferaŭ“, katoryja majuć z imi dačynieńnie...

# ДА СПРАВЫ „ПАЗЫКІ“ ПАНА ЛУЦКЕВІЧА

Яшчэ ў траўні прошлага году было пададзена да публічнага ведама пра тую „пазыку“, якую зрабіў у мяне п. Антоні Луцкевіч.

Справа, як падавалася ў газэтах, зводзіцца да таго, што Луцкевіч, залезшы з падабранымі ключамі ў мой прыватны пакой, забраў бяз майго ведама некаторыя дакумэнты Выбарнага камітэту Цэнтрасаюзу, якія яго вельмі цікавілі.

Цяпер, калі прашло столькі часу і п. Луцкевіч не забраў голасу па сутнасьці гэтай цікавай справы — у мяне прапала ўсякая надзея на тое, каб яму ўдалося вытлумачыцца з яе і таму зусім ня дзіўлююся, што ў сваім „Белар. Звоне“, ён павёў проці мяне сыстэматычную акцыю, абапёртую не на фактах, а на звычайнай брахні, маючы на мэце папсаваць маю грамадзкую апінію і ў гэты спосаб затушаваць усю вельмі прыкрую для яго справу з „пазыкаю“.

Падобнага роду акалічнасьці змушаюць мяне высьвятліць некаторыя „драбніцы“ якія яшчэ не былі парушаны і паказаць грамадзянству (апіраючыся на фактах)—з кім яно мае дачыненьне, чытаючы стацьці пяра Луцкевіча, каторы ў працягу многіх гадоў прывык усіх, хто выкрываў яго круцельствы, — зусім безпадстаўна залічаць да „правакатараў“, „агентаў дэфэнзывы“, „чэкістаў“ і т. п.“, як гэта ён робіць і да сёньняшняга дня адносна мяне.

Паставіўшы сабе такую мэту—мушу перадусім падчыркнуць, што п. Луцкевіч разам са сваёй кампаніяй хацеў укрыць ад мяне сваю „пазыку“ і што ўся справа выявілася толькі дзякуючы маім энэргічным крокам у кірунку адшуканьня „пазычальнікаў“.

Далося ўстанавіць, што ў гэтым учынку, беспасярэднім выканаўцам якога быў А. Луцкевіч, — замешаны і яго палітычны прыяцель п. Р. Астроўскі.

14 студзеня 1931 г., прыблізна на трэці дзень як была выкрыта ўся справа і пасьля таго—як я паслаў пісьмо да Луцкевіча, дамагаючыся звароту „пазычаных“ дакумэнтаў, — атрымаў ад Астроўскага вельмі цікавую запіску, зьмест каторай падаю на гэтым мейсцы і з каторай відаць, што пазычальная акцыя Луцкевіча і *яе мэты* былі зусім вядомы п. Астроўскаму.

„Напрасна ты распісываеш пісьма да Луцкевіча, усе гэтыя дакумэнты ужо ў мяне і я табе іх вярну. Можаш быць *спакойны*, бо уся *справа спазьнілася* і дзеля гэтага, *на жаль, нeгудаcя выкарыстаць.*
14. І. Твой Радаслаў Астроўскі“.

Атрымаўшы такое пісьмо, для мяне стала зусім зразумелым, што „zanosiło się“ на некую афёру, якая мела зрэалізавацца маім коштам і навэт без маяго ведама.

З далейшых крокаў, якія я распачаў і гутарак з п. Астроўскім зусім выразна выясьнілася гэтая прыкрая акалічнасьць...

Выкрыцьцё і „правал“ усей справы надзвычайна ўзварушыла Луцкевіча, Астроўскага і Антона Трэпку. Апошні з іх вельмі націскаў на тое, каб я падаў у газэты, што „ніякага інцыдэнту“ у сувязі з „візытаю“ п. Луцкевіча ня было. Некалькі разоў адбывалася са мною гутарка на падобную тэму і нарэшце А. Трэпка, як старшыня Цэнтрасаюзу, дамагаўся каб я абавязкова падпісаў асьведчаньне наступнага зьместу:

— „У сувязі з пашыранымі пэўнымі асобамі плёткамі аб нейкім інцындэнце паміж мною і гр. А. Луцкевічам заяўляю, што ніякага інцындэнту не было і ўсе падобныя гутаркі маюць на мэце выключна падрываньне сярод грамадзянства веры у павагу Цэнтрасаюзу, у якім працуе гр. Луцкевіч і я“.

Зразумела, што такога асьведчаньня, напісанага рукою Трэпкі і зрэдагаванага, як прыпушчаю, самым Луцкевічам—я не падпісаў, а залучыў яго разам з пісьмом Астроўскага да свайго архіву.

Варта яшчэ заўважыць што ў апошнія часы дзякуючы рэзкім разыходжаньням паміж мною і Ант. Луцкевічам у справе выезду б. грамадаўцаў у Саветы і дзеяльнасьці камуністаў, адносіны нашыя былі настолькі напружанымі, што разам мы не спатыкаліся навет на паседжаньнях.

Зразумела, што толькі такія надзвычайныя акалічнасьці пхнулі п. Луцкевіча на такі ганебны крок як „пазыка“ патрэбных яму дакумэнтаў у маім прыватным пакоі і пры дапамозе падобраных ключоў.

Пры гэтай „аказіі“ лічу сваячасным выявіць яшчэ адну вельмі цікавую акалічнасьць, здарыўшуюся са мной за часоў Грамады.

Летам 1926 г. я адаслаў у рэд. газ. „Белар. Справа“ (фактычным рэдактарам якой быў Ант. Луцкевіч) стацьцю на тэму аб тым, як трэба пісаць карэспандэнцыі з вёсак.

Стацьця мая не была надрукована ў газэце а замест гэтага апынулася ў архіве Цэнтр. Камітэту Камун. Партыі Зах. Белар. і была падчас вобыску ў архіве далучана да справы Грамады, паслужыўшы адным з галоўных доказаў майго быццам супрацоўніцтва з Камун. партыяю.

Вось што, між іншым, гаворыцца ў акце абвінавачаньня Грамады ў сувязі з гэтаю справаю:

— „W dowodach rzeczowych, zebranych podczas rewizji u Fryszmana w Archiwum C.K.K.P.Z.B w Białymstoku, odnaleziono eleborat pisany odręcznie przez oskarżonego p. t. „O czem należy pisać ze wsi do gazety“..“

— „Okinczyc należał do K.P.Z.B. i łączność jego z C.K.K.P.Z.B. stwierdzona została nie tylko jego własną działalnością, lecz i odręcznie pisanemi wskazówkami, jak pisać do gazety, które odnalezione zostały w archiwum tego C. K.“ (Akt oskarżenia w sprawie Hromady str. 48).

Доўга я ня мог дадумацца—якім гэта спосабам рукапісі, адсыланыя ў легальную беларускую прэсу маглі спачываць у камуністычных архівах (як бачым, ёсьць і такія) і толькі ў апошнія часы мне ўдалося ўстанавіць, што гэтая таямнічая справа без Луцкевіча не абышлася.

Трэба ведаць, што ўся карэспандэнцыя, якая надсылалася ў рэд. газэты „Бел. Справа“ (гэта ўстанавілі і сьведкі на працэсе Грамады), пападала ў рукі Луцкевіча, як галоўнага кіраўніка грамадоўскай прэсы.

Ня ведаю добра—ці ў гэтым выпадку была з яго боку злая воля адносна мяне, ці праступнае нядбальства...

Але тое, што здарылася з апошняю яго „пазыкаю“ носіць зусім выразны характар злой волі

і дае мне права абвінавачваць п. Луцкевіча, (памінаючы ўжо праўную кваліфікацыю ўсяго таго што ім зроблена)—у вельмі брыдкіх адносна мяне намярэньнях і змушае зьвярнуцца да нашага грамадзянства—каб яно само вынесла свой прыгавар у гэтай справе. Акалічнасьці вышэй пададзеныя (нароўні з іншымі ня менш паважнымі) прывялі мяне да перакананьня, што далейшае супрацоўніцтва з групаю, на чале каторай стаяць такія людзі як Луцкевіч і Астроўскі зусім немагчыма і змусілі мяне пакінуць „Цэнтрасаюс", праклінаючы тую ліхую гадзіну, калі мне прышлося яшчэ раз (і гэта ўжо апошні) супрацоўнічаць з імі.

Пасьля маяго разрыву з гэтаю арганізацыяю—кіраўніцтву яе нічога больш не заставалася як распаўсюджваць аба мне розныя нябыліцы.

Падаючы аб усім гэтым да ведама грамадзянства,—спадзяюся што мае радкі будуць перасьцярогаю для тых нямногіх грамадзян, каторыя не пазналіся яшчэ на сучасных кіраўніках „Цэнтрасаюзу" так, як пазнаўся на іх я.

Ф. Акінчыц

## Доўгія рукі ў чыстай справе

На віленскім балоце зьявілася нёкае новае ананімнае таварыства, якое быццам мае намер весьці барацьбу за ўсялякія чыстыя справы:—„за эвангэльскую беларускую царкву", за „лячэньне балячак царкоўнага жыцьця" і г. п. прыгожыя рэчы.

Прынамсь так галосіць першы нумар часопісі гэтай групы „Голас Праваслаўнага Беларуса". Далей мы даведаліся адтуль, што гэтыя „благочэсьцівая" група ў бліжэйшыя часы мае ператварыцца ў арганізаванае таварыства, якое распачатую акцыю паставіць „на базе" шырокае культурнае працы на карысьць беларускага народу"...

Аднычасна з гэтым ініцыятары „таварыства" запэўняюць, што ніхто іншы як толькі яны маюць вельмі чыстыя рукі, якія толькі і надаюцца да гэтакай чыстай справы.

„Чыстая справа вымагае чыстых рук"—зусім слушна паўтараецца ў часопісі гэты афорызм.

З вонкавага боку ўсё выглядае вельмі пекна але на вялікі жаль, новае „dobrane towarzystwo" дзее чамусьці анонімова;—не падае прозьвішчаў сваіх сябраў і супрацоўнікаў часопісі і нават ставіць фікцыйны адрэс рэдакцыі, бо аказалася, што пад адрасам рэдакцыі (Вільня Вострабрамская 9 кв. 15) знайходзіцца зусім ня рэдакцыя, а жывець звычайны кансысторскі стораж!

Падобныя цікавыя акалічнасьці наводзяць на думку пра тое, што ў даным выпадку сябрам „таварыства" ня вельмі хацелася-б, каб добрыя людзі прыглядаліся на іх рукі...

Выступленьне на беларускім грунце гэтакага занадта „чыстага" таварыства выклікала сярод віленскага грамадзянства гутаркі пра тое, што галоўнаю яго мэтаю зьяўляецца зусім не беларусызацыя царквы а нішто іншае, як „беларусызацыю" дамоў Мікалаеўскай Царквы ў Вільні пры дапамозе „втіранія очков" праваслаўнай духоўнай іерархіі...

Толькі гэтым і можна вытлумачыць той „фіміам", які таварыства „воскурыло" у сваей часопісі Духоўнай Кансысторыі, Мітрапаліту Дзянісу, арх. Хвядосу і нават рэктару Дух. сэмінарыі Тучэмскаму.

Калі пасьля выхаду першага нумару беларускае грамадзянства губілася ў дагадках—з каго-ж нарэшце, складаецца гэткае пабожнае і таямнічае таварыства, маючае такія чыстыя рукі,—дык пасьля выхаду наступнага нумару ні ў каго не засталсоя ніякага сумліву, што маем тут дачыненьне з тою самаю кумпаніяю, каторая яшчэ ня так даўно вяла ў сваіх камунізуючых газэтах акцыю ня вельмі карысную для ўсякэй рэлігіі наагул.

У гэтым № часопісі, дзе рэдакцыя зьвяртаецца з „благачэсьцівым павітаньнем да ўсіх добрых прыхільнікаў часопісі з Сьвятам Божага Нараджэньня" і „пажаданьням высокага ўздыму рэлігійнага духу"—выліты такі бруд і памы на некаторых грамадзян, па запаху якога ўсе „добрыя прыхільнікі" адразу зразумелі, што гэтае „праваслаўная" часопісь удахнаўляецца і кіруецца нікім іншым як бязвызнанёўцамі А. Луцкевічам і яго бліжэйшымі прыяцелямі, чамусьці набыўшымі за апошнія часы вельмі „высокі ўздым рэлігійнага духу"...

Запраўды царкоўную ўладу можна павіншаваць, рэдка калі здарыцца, каб гэтакія блудныя авечкі вярталіся ў ложа праваслаўнае царквы.

Але кажуць яшчэ і так, што навет адна паршывая авечка можа папсаваць ўсё стада, куды яна пралезе.

Баімося, каб апошняе ня было больш рэальным.

*Праваслаўны беларус*

## Maładyja wuczni starych krucialou

U Wilni arhanizawałasia studenskaja karparacyja „Skorynija", wydaŭšaja pieršy i druhi numar časopisi pad nazowam „Nowaja Warta".

Z hetaje časopisi hramadzianstwa moža dawiedacca, što dumaje rabić karparackaja moładź i jakija, ułaściwa, mety jana maje.

Ustupny artykuł 1 numaru časopisi, zjaŭlajučysia „prahramowym" zašmat niešta haworyć pra moładź i jaje nadzwyčajnyja zdolnaści.

„Naša časopiś — heta časopiś maładych, małady nia tolki fizyčna, ale i duchowa..."

„Moładaść mieścić u sabie nadzwyčajnuju siłu".

„U praciahu histaryčnych padziejaŭ... akademickaja moładź stajała na wyšyni swajho zadańnia". (zadańni bywali roznymi. U carskija napr. časy moładź, zhurtawanaja ŭ karparacyjach mieła hałoŭnym swaim zadańniem razbureńnie studenskaha ruchu. (Red.).

„Wiera pałučanaja z moładaściu, dawała ŭ sapraŭdnaści pryhožuju symbiozu (?!)"

Adnym słowam, amal u kožnym radku dyfiramby moładaści i asabliwa, jak widać, tamu „symbiozu", jaki zhurtawaŭsia u karparacyi „Skorynija".

Dalej u hetym artykule idzieć mowa pra toje, što duch pawinien panawać nad materyjaj" i pra inšyja sałodkija i pryhožyja recy.

Ale dziela taho, kab takaja praca była „twórčaj i zapraŭdy stałasia pieramožnaj" patrebna „dobra arhanizawanaja adzinka — a takoju zjaŭlajecca jak raz na studenskim hruncie karparacyja".

Dla nas krychu niezrazumieła — čamu tolki karparacyja moža być takoju „adzinkaju", majučaj prywilei na „tworčuju" i „pieramožnuju" pracu.

Kali tut idzieć mowa pra „Skaryniju", dyk siabry jaje absalutna ničym dadatnim u našym hramadzkim žyćci nia wykazalisia.

Kail-ž uziać pad uwahu tyja „subotniki z harbatkaju“ i skandały, ab jakich padawałasia ŭ hazetach (majem na ŭwazie dziki napad skarynincaŭ na stud. Saroku, stud. Šutowiča, stud. S. Stankiewiča i „burdu“, jakuju ŭčyniŭ fuks Astroŭščyk na litoŭskaj wiečarynie) — dyk sapraŭdy možna pahadzicca z red. „Nowaj Warty“, što moładaść mieścić u siabie nadzwyčajnyja siły“...

Mahčyma adnak, što i korporacyja „Skorynija“ mahła-b prynieści peŭnyja karyści dla biełaruskaj sprawy, ale tolki pry ŭmowie adpawiednaha ideolohičnaha kiraŭnictwa z boku starejšaha hramadzianstwa.

Na žal, „Skorynija“ pašła ŭ darohu nie adpawiednym šlacham i nie z adpawiednymi wažakami.

Užo adno toje zjaŭlajecca wielmi drennym, što wiarchoŭny „patryjarchat“ nad joju abniaŭ A. Łuckiewič, jaki nia hledziačy na swajo „biezwyznanioŭstwa“ zjawiŭsia ŭ carkwu Duchawa manastyra na aświaščeńnie korporanckaha ściahu, kab hetym lišni raz dawieści swajo licemierstwa i zdolnaści dastasawańnia da hustu tych, na čyju łasku raźličaje hety pierawiercień.

Nia lepšym zjaŭlajecca z hramadzkaha punktu hledžańnia i toj fakt, što adzin z hałoŭnych „wodzirejaŭ“ karparacyi akazaŭsia razam z Łuckiewičam i „filistr“ Astroŭski, ad jakich skarynaŭcy spadziajucca niečaha nawučycca na ich, jak jany kažuć „dasiahnieńniach“.

Nam zdajecca, ničamu dobramu našyja maładyja karparanty ad takich „wučycialoŭ“ nie nawučacca— chiba-ž tolki hramadzkamu krucielstwu i inšym rečam, pra jakija dawoli časta ŭspaminajecca ŭ našaj presie.

U najlepšym wypadku „filistr“ Astroŭski moh by nawučyć našuju moładź jak heta tannym koštam budawać darahija willi, a Łuckiewič—zahraničnym handlowym aperacyjam...

Dobra wiadomy našamu hramadzianstwu zdolnaści tych jahomościaŭ, na nawuku da jakich pašli skarynaŭcy.

Za heta ich možna tolki paškadawać, bo zapraŭdy jany mohuć nabyć sabie takuju samuju apiniju, jakuju majuć u našym hramadzianstwie ich wučyciali...

## Што вырабляюць „дабрадзеі“ з Беларускага Дабрадзейнага Таварыства ў Вільні

Пра „дабрадзейныя“ справы паноў дабрадзеяў з Віленскага Дабр. Т-ва, якое кіруецца п. Луцкевічам і Астроўскім, ужо ня раз парушалася ў нашай прэсе.

Гэтыя паны так моцна закансьпіраваліся ў сваёй дзеяльнасьці, што ўпарта ня хочуць зазнаёміць грамадзянства з грашовымі справамі сваей сьмердзякойскай крамкі.

Як вядуцца там справы — ляпей усяго можна дагадацца з дакумэнтаў, адзін з каторых падаем да ведама грамадзянства, адлажыўшы апублікаваньне іншых да наступнага разу. Гэты цікавы дакумэнт выданы Дабр. Таварыствам 26 верасьня 1930 г. за № 39, галосіць наступнае:

„Школьнаму патранату Бел. Дабр. Т-ва і Бацькаўскаму Камітэту Віленскай Бел. Гімназіі.

Беларускае Дабрадзейнае Т-ва гэтым паведамляе, што заплаціла ў гімназію часьць платы за навуку незаможных вучняў, якія знайходзяцца на ўтрыманьні патранату за першыя паўгодкі суму 2215 зл. Прыймаючы пад увагу, што ў сучасны момэнт, як выясьніла кіраўніцтва патранату, патранат ня можа вярнуць Т-ву гэтую суму адразу. Т-ва просіць Вас пакрываць ступянёва, выплачваючы ад імя Т-ва дапамогі незаможным студэнтам і курсантам, бяручы ад іх паквітаваньні і вэксалі на імя Т-ва. Старшыня Быхаўцова“.

Для зразуменьня ўсей справы трэба ведаць, што грашовыя сродкі, якія Дабр. Т-ва атрымоўвала ў 1930 г.—павінны былі ісьці на ўтрыманьне вучняў Віленскай Бел. Гімназіі ў інтэрнаце.

Калі-ж яны выдаваліся на нейкія „дапамогі студэнтам і курсантам“—ужо адно гэта зьяўляецца такою акалічнасьцю, якою павінна зацікавіцца нашае грамадзянства.

Гэтымі „дапамогамі“ можна, між іншым, вытлумачыць і той сумны факт, што ў 1930 і 31 гг. вучні ў інтэрнаце сядзелі галоднымі.

У сувязі з усім вышэй пададзеным у кожнага чалавека, які цікавіцца нашымі грамадзкімі справамі, павінны паўстаць такія пытаньні:

Скуль узяўся некі „патранат“ як інстытуцыя, распараджаючая грашовымі сродкамі, фактычна належачымі да Дабрадзейнага Т-ва?

Якім гэта студэнтам і курсантам былі выдадзены „дапамогі“?

Хто належыць да сябраў гэтакага вельмі паўнамоцнага „патранату“ і ці няма там у ліку яго кіраўнікоў блізкіх людзей да кіраўніцтва Дабр Т-ва і наагул гэтае апошняе разам з „патранатам“ — ці не зьяўляецца некаю хэўраю, маючаю сямейны характар?

Якім правам, грошы вызначаныя на ўтрыманьне вучняў—выдаваліся на іншыя мэты?

На нашую думку ўсе падобнага роду „патранаты“, „дапамогі“ і іншыя дабрадзействы паноў „дабрадзеяў“ павінны зацікавіць ня толькі нашую грамадзкасьць, але і выклікаць урадовую рэвізію грашавой гаспадаркі Белар. Дабр. Т-ва, за якую пэўна-ж, здаровая частка нашага грамадзянства гневацца ня будзе...

## Што кажуць добрыя людзі пра аднаго з нашых „дазнаных“

На працэсе Грамады (які між іншым, чакае яшчэ свайго гісторыка), выявілася шмат цікавых рэчаў характэрызуючых маральнае абліччa некаторых з нашых „дзеячоў“ і кідаючых сьвятло на іх біографію.

Асабліва прыкрымі гэтыя дадзеныя зьяўляюцца для п. Луцкевіча, вядомага нашаму грамадзянству, між іншым і з тае сьмешнае прычыны, што за ўсялякую цану пнуўся некалісь каб яго лічылі „дазнаным павадыром“ і „патрыярхам“ беларускага адраджэнскага руху.

З гэтаю мэтаю наш няпрызнаны патрыярх, як ведама, напісаў брашуру „За 25 гадоў“, у якой зашмат хваліць сябе, даводзячы, што ніхто іншы а толькі ён „з братам Іванам“ зьяўляюцца чыстакроўна—беларускімі патрыярхамі.

Вось жа да гэтага цьверджаньня п. А. Луцкевіча трэба ўнесьці маленькую „папраўку“, якая выявілася на працэсе Грамады, а што самае галоўнае — п. Луцкевіч ня мог з яе вытлумачыцца. Аказваецца, што гэтага пана многія знали ад даўжэйшага часу, і вось адзін з ліку такіх знаёмых падаў яго вельмі цікавыя дадзеныя, каторыя „брат

Антоні“ забыўся чамусьці ўмясьціць у сваю аўтахвалебную брашурку. „Пазнаў Луцкевічаў—кажа знаёмы — у 1906 ці 1907 г. і даволі часта спатыкаўся з імі на грунце не палітычнай працы, але ў сувязі з тымі зборамі, якія яны мелі і якія насілі антыкварны характар. Свае зборы Луцкевічы рэкамэндавалі як пачатак Белар. музэю, аднак ня скрывалі перадамною, што многа рэчаў прадаюць і купляюць новыя. Агулам грамадзянствам яны лічыліся „за асобы гандлюючымі старымі рэчамі...“ (Гэты гандаль ня спыніўся і да сёньняшняга дня. Рэд.).

„Луцкевічы зазначалі, што яны зьяўляюцца палякамі, нават гардзіліся тым, што маюць шляхоцкі тытул. Ант. Луцкевіч у сваёй літэратурнай працы паслугоўваўся псэўдонімам „Навіна“ — назовам сваяго шляхоцкага гэрбу. Ад першага часу нашай знаёмасьці я прышоў да перакананьня, што гэта няшчырыя і нягодныя даверу людзі...“

(З паказ. В. Студніцкага — дыр. дзярж. архіву ў Вільні. Том 6—F актаў справы Грамады стар. 284). Да тых сьведкаў, каторыя выступалі на працэсе Грамады і казалі няпрыемныя для абвінавачаных рэчы,—у нашым грамадзянстве ўстанавіўся пагляд, што паказаньні іх фальшывыя.

Нам выдаецца такі пагляд няслушным, бо шмат чаго падобныя сьведкі казалі зусім правільна. І ў даным выпадку мы пераконаны, што п. Студніцкі казаў праўду, даючы такую забойчую характэрыстыку: трэба не запамінаць, што паказаў сам А. Луцкевіч пра сваю нацыянальную прошласьць на працэсе Грамады...

Той-жа самы сьведка (і ня толькі ён адзін) дакладна даў, што А. Луцкевіч за часоў нямецкай акупацыі выдаваў там „Гоман“, атрымліваючы на гэта грошы ад нямецкіх акупантаў. Магчыма што толькі гэтаю гістарычнаю акалічнасьцю і можна вытлумачыць той сантымэнт да немцаў, які выявіўся ў сяброў Луцкевіча тады, калі яны пакрыёму друкавалі беларускія падручнікі для Зуземіля і хацелі збеларусызаваць усю Нямеччыну, але, на вялікі жаль, справа чамусьці абарвалася (як відаць немцам не падабаўся „тавар“) — і што сталася з падручнікамі — нікому невядома...

## Дакумэнт аб якім была мова на працэсе Грамады

Выпіска з пратакол аглядзін сьпісанага суд. сьледав. С. Паўлюцем 3 лістапада 1927 г. (Акты справы Грамады т. 6-ты стар. 224).

„Фатаграфія адной з старонак дакумэнту асабістага, на якой была наклеена фатаграфія мужчыны, сярэдняга веку, убранага ў бэкешу шэрага колеру, з такога-ж колеру каўнерам. Надпіс на сфатаграфаваным дакумэнце зроблены ў Літоўскай мове.

У гары з левай стараны: „Lietuvos Valstybo“—потым; „1919 Sausio 13“. Дакумэнт носіць назоў: „Užsienio pasas № 115“.

Далей у адпаведных рубрыках напісана: „Łuckievičaus Antonas, Lietuvos, žurnalistas, gardinas 1884 m. 17 sausio“. З далейшых аднотацыяў „Svecarja, Danja, Prancuzja, Anglija“ можна судзіць, што гэта ёсьць бачына загранічнага пашпарту.

Гэтакім дакумэнтам зацікавіўся судов. сьледавацель Паўлюць і Віленскі Акружны Суд, калі разглядаў справу Грамады. Вялікае зьдзіўленьне выклікаў ён і сярод абвінавачаных грамадаўцаў—бо аказалася, што гэта ёсьць Літоўскі пашпарт п. А. Луцкевіча з 1919 г., калі наш „агульна шанаваны беларускі патрыярх“ залічаў сябе да ліцьвіноў...

## WYPISKA Z PRYHAWARU WILEŃSKAHA AKR. SUDU U SPRAWIE HRAMADY

... Formalna przynależność jego do B. W. R. Hromady udowodnioną nie została, tembardziej, że **jak to wynika z dołączonego do sprawy numeru czasopisma „Przegląd Wileński“, oskarżony ten swej przynależności do B. W. R. H. na długo przed likwidacją tej organizacji publicznie się wyparł;** Zachodzi jednak kwestja udziału w czasopismach wydawanych przez Hromadę, w celu szerzenia idei rewolucyjnych. **Udział jego w tych pismach został na przewodzie Sądowym z całą stanowczością stwierdzony** przez zeznania świadków Aleksandrowicza, **Samojło**, Zakrzewskiego... Można wprawdzie powątpiewać, aby oskarżony Łuckiewicz zgodził się na granie w redakcji pism wydawanych przez B. W. R. H. roli drugorzędnej i zależnej, przeszłość Łuckiewicza wkazuje jednak, że mimo wszystko, jeszcze nie tak dawno, wziął on na siebie rolę w prasie perjodycznej bardzo nawet zależną i podrzędną tak bowiem z zeznań świadków Gizbert—Studnickiego i Jundziłła wynika, za czasów okupacjj niemieckiej Wileńszczyzny Łuckiewicz brał udział w wydawaniu przez niemiecki Sztab Generalny w języku białoruskim gazety „Homan“, pobierając za to, jak to wskazuje okazany przez świadka Gizbert—Studnickiego dokument—księga rachunkowa—od władz niemieckich dość skromne wynagrodzenie“ („Wyrok“ str. 40).

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## Да гісторыя нашай грамадзкасьці

Шмат якія мамэнты з гісторыі беларускай грамадзкасьці зусім яшчэ ня высьветлены ў нашай літэратуры.

З мэтаю папоўненьня гэтых недахопаў, б. грамадаўскі пасол Ю. Сабалеўскі ў хуткім часе мае надрукаваць кніжку, дзе закране некаторыя найбольш цікавыя мамэнты з апошніх часаў.

Між іншым, шмат увагі аўтар адводзіць шкодніцкай ролі А. Луцкевіча, які за часоў нямецкай акупацыі працаваў на карысьць расейскіх і польскіх абшарнікаў і нямецкай гакаты, вядучы адначасна барацьбу з самаўрадамі.

Абгаварваючы часы нямецкай акупацыі, аўтар парушае справу пасылкі п. Луцкевічам падзячнай тэлеграмы Вільгэльму за дакананую акупацыю.

Падыходзячы да спраў Грамады—Ю. Сабалеўскі аадае рад фактаў, даводзючых тую агідную ролю, якую адыграваў Луцкевіч са сваім таварышам Ваяводзкім у беларускіх справах, разглядае пытаньне пра высілкі робленыя Луцкевічам у кірунку наданьня грамадаўскаму руху інтэрнацыянальнага характару і г. д.

Таксама друкуецца кніжка „Чаму ім ня можна верыць“ ф. Акінчыца.

Рэдактар-Выд. Ф. АКІНЧЫЦ

Drukarnia W. Znamierowskiego Wilno